Анкета для чытачоў 2

Адкрыццё Дзвярэй Міласэрнасці ў дыяцэзіі 3

Пабудуем касцёл разам 5

Святочныя віншаванні 7–8





Гродна
№24 (435),
27 снежня 2015

# Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ

www.slowo.grodnensis.by




**Аляксандр Кашкевіч,**
*Біскуп Гродзенскі*

*Любоў Бога да нас адкрылася ў тым, што Бог паслаў у свет Сына свайго Адзінароднага, каб мы жылі праз Яго.*

*(1 Ян 4, 9)*



**Юзаф Станеўскі,**
*Дапаможны біскуп*

## УМІЛАВАНЫЯ Ў ХРЫСЦЕ ПАНУ БРАТЫ І СЁСТРЫ! ДАРАГІЯ ДЫЯЦЭЗІЯНЕ!

Кожны год у святы Божага Нараджэння мы зноў чуем Добрую Навіну пра Езуса Хрыста, Божага Сына, які стаў Чалавекам для нашага збаўлення. Гэтая ісціна не перастае нас здзіўляць. Яна напаўняе нашыя сэрцы радасцю, даверам, спакоем, дадае нам мужнасці і моцы. У Божым Дзіцяці, якое прыходзіць на гэты свет, мы бачым аблічча Бога, які ёсць Любоў. Ён – багаты на міласэрнасць – нястомна стукаецца ў дзверы нашых сэрцаў, каб сказаць нам, як моцна Ён нас любіць і як моцна прагне ашчасліваць нас сваёй міласэрнай любоўю.

Калі мы прымаем гэтую любоў, прызнаючы Хрыста нашым Панам і Збаўцам, мы нараджаемся нанова як усынаўлёныя Божыя дзеці. І гэта самы вялікі дар, самая вялікая ласка, якую толькі можна сабе ўявіць.

Поўныя радасці і ўдзячнасці за гэты дар, давайце абудзім у сабе жаданне абвяшчаць Божую любоў словамі, учынкамі, паставай, выражаемымі ў штодзённасці. Падчас Юбілейнага года міласэрнасці, адказваючы на заклік папы Францішка, "давайце адкрыем нашыя вочы, каб убачыць убоства свету, раны стольных братоў і сясцёр пазбаўленых годнасці. Давайце адчуем сябе заклікамі, чуючы іх просьбу аб дапамозе. Нашыя рукі няхай усціснуць іх рукі. Давайце прытулім іх да сябе, каб яны адчулі цеплыню нашай прысутнасці, сяброўства, братэрства" (MV 15).

Яднаючыся духоўна пры вігілійным стале і ламаючыся традыцыйнай аплаткай, жадаю Вам, дарагія Браты і Сёстры, радаснага перажывання свят Божага Нараджэння. Няхай гэтая святочная радасць пасяліцца ў Вашых дамах, у месцах вучобы і працы, няхай перадасца ўсяму нашаму грамадству. Няхай Божае Дзіцятка кожнага з Вас адорвае здароўем, супакоем у сэрцы, надзеяй і аптымізмам, няхай узмоцніць у веры і ў жаданні ахвяраваць міласэрнасць.



### РАДАСНЫХ СВЯТ БОЖАГА НАРАДЖЭННЯ І ШЧАСЛІВАГА НОВАГА ГОДА!

## ДАРАГІЯ БРАТЫ І СЁСТРЫ!

У апошнія месяцы падыходзячага да канца года з дапамогай тэлевізійных навін чалавецтва адчула сябе "народам, які ходзіць у цемры", пра каторы ўспамінае прарок Ісая ў чытанні з літургіі слова на Божае Нараджэнне. Цемра, што ахінула людскія сэрцы і розумы ў выніку тэрарыстычных актаў, бамбёжкі і "новай вандроўкі людзей за лепшым жыццём", прыняла кштальт вялізнай блытаніны ў маральнай сферы. Зло намагаецца стаць нараўне з дабром, падман – нараўне з праўдай. Цемра завалодала розумамі асобных людзей і цэлых народаў. Прымаюцца нормы, нязгодныя з запаведдзю любові да Бога і бліжняга. Чалавек спрабуе заняць месца Бога і прапанаваць сваё рашэнне ва ўзніклай сітуацыі. Свет забыўся пра Бога і здзіўляецца, што ўсё паварнулася супраць яго самога.

"Я абвяшчаю вам вялікую радасць, якая будзе для ўсяго народу, бо нарадзіўся вам сёння Збаўца" (параўн.: Лк 2, 10–11), гучна паўтарае за анёлам св. евангеліст Лука, каб супакоіць і вывесці з аблуды пакрыўджанага, заблукалага, збунтаванага чалавека.

Браты і Сёстры! У Бэтлееме пачалася цудоўная гісторыя скрыжавання дарог Бога і чалавека. Бог увайшоў у гісторыю чалавецтва, у жыццё кожнага з нас, каб вызваліць нас з няволі граху, каб мы нанова нарадзіліся з Бога, сталі адзін аднаму братамі і ўсынаўлёнымі Божымі дзецьмі.

Дарагія! Бэтлеемская зорка засвяціла не толькі аднойчы і не толькі ў Бэтлееме. Яе святло мы заўважаем і сёння там, дзе пануюць прабачэнне і згода, паяднанне і любоў. Атмасфера цеплыні бэтлеемскай ночы спавівае і сёння: дзяцей пад сэрцам маці і ў дзіцячых дамах, невылечна хворых і вязняў, сем'і, што мірацца, і людзей, што прынялі рашэнне спыніць вайну і адчыніць дзверы для бяздомных. Святло Бэтлеемскай зоркі ярчэй зззяе ў чыстым сэрцы і небе. Эмануэль – Бог для ўсіх, Бог, які з намі.

Дарагія! Няхай сёлетняе перажыванне таямніцы Божага Нараджэння асвеціць цемру і верне ў нашу свядомасць Бога, які ёсць і які любіць нас, які з'яўляецца асновай парадку: маральнага, грамадскага, гаспадарчага і палітычнага.

Жадаю ўсім Вам блаславёных, спакойных і напоўненых духоўнай радасцю свят Божага Нараджэння і шчаслівага Новага 2016 года. Няхай Божы Сын, які нараджаецца ў Бэтлееме, знойдзе годную святліцу ў нашых сэрцах. Няхай нашыя сем'і і дамы Ён адорыць ласкай і спагадай. Няхай святло Бэтлеемскай зоркі будзе знакам трывалага спакою і прымірэння паміж ваюючымі народамі і дзяржавамі.

### РАЗАМ З ВІНШАВАННЯМІ ДЗЯЛЮСЯ З ВАМІ БЕЛАЙ АПЛАТКАЙ – ЗНАКАМ АДЗІНСТВА Ў ХРЫСЦЕ.

## Каляндар падзей

***28 снежня***
*свята св. Немаўлят.*

***1 студзеня***
*ўрачыстасць Святой Багародзіцы Марыі. Сусветны дзень малітвы аб супакоі на свеце.*

***6 студзеня***
*ўрачыстасць Аб'яўлення Пана (Трох Каралёў), блаславенне крэйды і ладана. Місійны дзень дзяцей.*

***10 студзеня***
*Нядзеля Хросту Пана.*

## Запрашаем!

***Праграмы каталіцкай рэдакцыі:***

***"Голас Евангелля"***
*Каталіцкая праграма на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё.*
***Кожную нядзелю ў 8.00***
*запрашаем разважаць над Евангеллем і дзяліцца Божым словам.*
***Гродна 103,0 FM***
***Свіслач 105,9 FM***

## Ружанцовыя інтэнцыі:

***Студзень***

*Аб паглыбленні ласкі хросту ва ўсіх ахрышчаных.*

*Аб развіцці хрысціянскіх каштоўнасцей у нашым грамадстве і народзе.*

*Аб еднасці паміж хрысціянскімі канфесіямі ў Беларусі.*

## Інтэрнэт-апытанне
**www.grodnensis.by**

***Што Вы будзеце рабіць на заканчэнне старога і пачатак новага года?***

- *пайду на вячэрнюю св. Імшу, падзякую Богу за атрыманыя ласкі*
- *пайду на св. Імшу апоўначы, папрашу Божага блаславення на наступны год*
- *буду святкаваць за сталом з сям'ёй*
- *буду святкаваць з сябрамі*
- *пайду на св. Імшу ў першы дзень новага года*
- *для мяне гэта не свята*
- *цяжка сказаць*

**выкажыся**

**"Езус – гэта Любоў, якая стала целам" – папа Францішак**

## РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

**СВЯТОЙ СЯМ'І**
**Мц 2, 13–15, 19–23**

Калі мудрацы адышлі, вось анёл Пана з'явіўся Юзафу ў сне і сказаў : "Устань, вазьмі Дзіця і Маці Яго і ўцякай у Егіпет, і будзь там, пакуль не скажу табе; бо Ірад будзе шукаць Дзіця, каб загубіць Яго". Ён устаў, узяў Дзіця і Маці Яго ноччу і пайшоў у Егіпет, і быў там да смерці Ірада. Так збылося сказанае Панам праз прарока: "З Егіпта паклікаў Я Сына Майго".

А калі Ірад памёр, вось анёл Пана з'явіўся ў сне Юзафу ў Егіпце і сказаў: "Устань, вазьмі Дзіця і Маці Яго і ідзі ў зямлю Ізраэля, бо памерлі тыя, хто хацеў забіць Дзіця". Ён устаў, узяў Дзіця і Маці Яго і прыйшоў у зямлю Ізраэля.

Але пачуўшы, што ў Юдэі валадарыць Архелай замест бацькі свайго Ірада, пабаяўся ісці туды. І, атрымаўшы ў сне наказ, пайшоў у Галілейскую зямлю. Прыйшоўшы, пасяліўся ў горадзе, які называецца Назарэт, каб збылося сказанае прарокамі, што Ён будзе названы Назаранінам.

### БОГ ЧУВАЕ НАД СЯМ'ЁЙ

Бог абраў для свайго Сына чалавечую сям'ю як натуральнае асяроддзе жыцця, бяспекі і сталення. Прыклад Святой Сям'і з Назарэта паказвае, што Бог таксама чувае над кожнай сям'ёй. Калі хто паспрабуе адабраць у сям'і яе Божае пакліканне, няхай ведае, што ён супрацьстаіць планам самога Бога. А гэта не толькі нахабства, гэта прыняцце на сябе адказнасці за аплакванне вынікаў знішчэння сям'і.

**II НЯДЗЕЛЯ ПАСЛЯ БОЖАГА НАРАДЖЭННЯ**
**Ян 1, 1–18**

На пачатку было Слова, і Слова было ў Бога, і Богам было Слова. Яно было ў Бога спрадвеку. Усё праз Яго сталася, і без Яго нічога не сталася з таго, што сталася. У Ім было жыццё, і жыццё было святлом людзей. А святло свеціць у цемры, і цемра не агарнула яго. З'явіўся чалавек, пасланы ад Бога; імя ягонае было Ян. Ён прыйшоў дзеля сведчання, каб засведчыць пра Святло, каб усе паверылі праз яго. Не быў ён святлом, але быў пасланы, каб сведчыць пра Святло. Было Святло праўдзівае, якое асвятляе кожнага чалавека, які прыходзіць на свет. У свеце было, і свет праз Яго стаўся, і свет не пазнаў Яго. Прыйшло да свайго, і свае Яго не прынялі. А тым, хто прыняў Яго, дало ўладу стаць Божымі дзецьмі, тым, хто верыць у імя Ягонае, хто ні ад крыві, ні ад жадання цела, ні ад жадання мужа, але ад Бога нарадзіўся.

Слова сталася целам і пасялілася між намі, і бачылі мы славу Ягоную, славу, якую мае ад Айца Адзінародны, поўны ласкі і праўды.

Ян сведчыць пра Яго і ўсклікае, кажучы: "Гэта быў той, пра якога я сказаў: за мною ідзе той, які апярэдзіў мяне, таму што быў раней за мяне". Бо з паўнаты Ягонай мы ўсе прынялі ласку замест ласкі. Бо Закон быў дадзены праз Майсея, ласка і праўда сталіся праз Езуса Хрыста. Бога ніхто ніколі не бачыў. Адзінародны Бог, які ва ўлонні Айца, Ён адкрыў.

### БОГ ПРЫХОДЗІЦЬ ДА НАС

Перажываючы радасць Божага Нараджэння, мы адчуваем асаблівую прысутнасць Бога ў нашым жыцці.

Ян Хрысціцель прыходзіць у свет з заданнем, дадзеным "з вышыні": ён павінен даць сведчанне аб Тым, хто ёсць Святло, ён расказвае свету, што нованароджаны Езус становіцца Святлом. Па прыкладзе Яна Хрысціцеля кожны з нас у сённяшні час таксама можа даваць сведчанне аб Нованароджаным. Мы можам рабіць гэта не толькі словам, але, у першую чаргу, учынкам.

Важнае заданне сённяшняга часу заключаецца ў тым, каб кожны мог таксама і "праз нас паверыць". У цёмных кутках нашага жыцця нараджаецца святло, якое асвячае нашыя сэрцы і дадае нам адвагі на кожны дзень. Святло, якое свеціць у тунэлях нашага жыцця, паказвае нам дарогу да Неба. Сёння нам патрэбны апосталы, каб кожны чалавек мог сустрэць Бога, мог стаць Божым Дзіцём, а таксама мог знайсці сваю дарогу да Неба.

*Кс. Яраслаў Грынашкевіч*



## СЛОВА РЭДАКТАРА

*Кс. Павел Салабуда*

# У Год міласэрнасці пры яслях

Чарговыя святы Божага Нараджэння даюць нам нагоду для што+разовай задумы. Зрэшты, ад аднаго ксяндза я пачуў, што хрысціянін – гэта чалавек, які павінен увесь час думаць. Хтосьці скажа, што кожны чалавек павінен думаць, але парадокс гэтага жыцця заключаецца, як бачым, у тым, што не ўсе гэта робяць. Не кожны можа сказаць Богу "так", а д'яблу – "не". Але я не аб гэтым хацеў бы сёння разам з Вамі паразважаць.

У гэтыя дні кожны з нас, думаю, не раз падыдзе да бэтлеемскай стайні, каб ушанаваць Бога, які нарадзіўся на зямлі. Мы не адзін раз пачуем прыгожыя мелодыі калядак і заспяваем разам у касцёлах і ў сваіх дамах бэтлеемскія гісторыі цуду нараджэння Збаўцы. Для адных гэта могуць быць звычайныя святы, а для іншых – сапраўдная сустрэча з нованароджаным Хрыстом. Калядкі, стаенка, малітва – усё гэта вельмі важна, і без гэтага мы не ўяўляем сабе свят Божага Нараджэння. Але ёсць яшчэ адзін спосаб "малітвы" і "каляды" ў Год міласэрнасці. Хрыстос можа нарадзіцца ў нашых сэрцах праз добры ўчынак. Варта над гэтым задумацца.

Сёння чалавеку як ніколі патрэбна дапамога ад Бога і людзей. Гэтая дапамога можа быць рознага тыпу: пачынаючы ад добрага слова, ажно да цудоўных каштоўных падарункаў, патрэбных тым, хто знаходзіцца ў складанай жыццёвай сітуацыі. На адным з каталіцкіх форумаў дапамогі ў інтэрнэце я прачытаў такі сказ: "Праз добры ўчынак дапамагаю людзям у збаўленні". Здавалася б, што добрыя ўчынкі – гэта ратаванне ўласнай душы і жыцця. І гэта таксама праўда. Але можна пайсці далей: праз добрыя ўчынкі можна збавіць іншых.

Я не буду падаваць спіс добрых учынкаў, таму што кожны выдатна ведае, што ён павінен зрабіць і каму дапамагчы. Найважнейшае, каб гэта было ад чыстага сэрца, з добрымі намерамі і на хвалу Богу, які нарадзіўся, каб несці свету спакой і дабрыню, міласэрнасць і справядлівасць. Мы жывём у цяжкія часы, але нельга паддавацца абыякавасці і песімізму. Нельга забывацца аб тым, што ў нашым акружэнні ёсць людзі, якім неабходна наша дапамога, якія, дзякуючы нам, могуць знайсці сэнс жыцця. Калі мы праз свае добрыя ўчынкі будзем верагоднымі сведкамі цуду нараджэння Хрыста, гэта стане магчымасцю адшукання сапраўднага Бога і сапраўднага Касцёла для тых людзей, якія шукаюць Бога або якія Яго згубілі.

Задача хрысціяніна – не толькі перадаваць Добрую Навіну, але і дапамагаць у сустрэчы Хрыста і ў доследзе Яго любові і міласэрнасці. Запрашэнне да міласэрнасці становіцца асноўнай задачай у жыцці хрысціяніна. Тваё жыццё становіцца сведчаннем таго, што Ты захочаш абвяшчаць радасць асабістай сустрэчы з Богам праз міласэрнасць для іншых. Абвяшчаць яе тым, хто яшчэ не сустрэў Бога ці забыўся пра Яго.

**Дарагія Чытачы! Прагну таксама ад свайго імя і ад імя нашага рэдакцыйнага калектыву ў гэтыя святочныя калядныя дні скласці Вам сардэчныя пажаданні. Перш за ўсё, каб Вы былі пры яслях Хрыста, каб сталі сведкамі цуду Божага Нараджэння і разам з анёламі і пастухамі сваім жыццём маглі абвясціць гэтую праўду іншым людзям, каб на нашай зямлі панавалі супакой і дабрыня. Жадаю кожнаму з Вас адчуць Божую міласэрнасць і па-свойму падзяліцца міласэрнасцю з іншымі. Няхай гэтыя святы Божага Нараджэння, як і ўвесь новы 2016 Панскі год, будуць для Вас самым цудоўным часам сустрэчы Божай міласэрнасці.**

# Анкета
## чытача газеты "Слова Жыцця"

**Паважаныя Чытачы! Газета "Слова Жыцця" існуе спецыяльна для Вас, і мы б хацелі, каб яна адпавядала Вашым чаканням. Каб зрабіць выданне яшчэ больш цікавым і карысным, прапануем Вам адказаць на пытанні дадзенай анкеты. Дасылайце яе ў рэдакцыю і станавіцеся ўдзельнікам розыгрыша падарункаў за запаўненне анкеты.**

1. Як даўно Вы чытаеце газету "Слова Жыцця"?
2. Чаму да сённяшняга дня з'яўляецеся яе чытачом?
3. Адкуль даведаліся пра выданне?
4. Як часта чытаеце "Слова Жыцця"?
   - *кожны нумар*
   - *час ад часу*
   - *чытаю ў інтэрнэце*
   - *упершыню*
5. Ці падабаецца Вам знешні выгляд газеты?
6. З якой старонкі пачынаеце чытаць "Слова Жыцця"?
7. Якія тэмы цікавяць Вас больш за ўсё?
8. Якой тэматыкі не хапае на старонках газеты?
9. Якія рубрыкі Вам падабаюцца найбольш?
   - *Каляндар падзей*
   - *Слова рэдактара*
   - *Разважанні з Божым словам*
   - *Знаёмімся з нашымі касцёламі*
   - *Слова для жыцця*
   - *Варта ведаць*
   - *З каталіцкага друку*
   - *Учора, сёння, заўтра*
   - *Апытанне*
   - *На скрыжаванні*
   - *Фотафакт*
   - *Лепш пытаць, чым памыляцца*
   - *Адпачынак са "Словам"*
   - *Ад шчырага сэрца*
10. Без якіх рубрык, на Вашу думку, газета магла б абысціся?
11. Што Вам не падабаецца ў газеце?
12. Што можа зрабіць выданне больш цікавым для Вас?
13. Якія артыкулы Вам запомніліся?
14. Ці распавядаеце Вы сваім суседзям, сябрам, калегам пра тое, аб чым прачыталі ў газеце?
15. Вашыя пажаданні рэдакцыі.

***Прозвішча і імя***
***Узрост***
***Род дзейнасці***
***Кантактны адрас і тэлефон***

# Каталіцкія святыні Гродзенскай дыяцэзіі адчынілі Святыя Дзверы

**13 снежня гродзенскі біскуп Аляксандр Кашкевіч адчыніў Святыя Дзверы ў катэдральным касцёле св. Францішка Ксаверыя. У гэты ж дзень дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі адчыніў Дзверы Міласэрнасці ў касцёле Узвышэння Святога Крыжа (Фара) у Лідзе. У незвычайнай падзеі прыняло ўдзел мноства вернікаў.**



*Кс. бп Аляксандр Кашкевіч адчыняе дзверы гродзенскай катэдры, якія сімвалізуюць Браму Міласэрнасці*



*Падчас адкрыцця Святых Дзвярэй у касцёле Узвышэння Святога Крыжа ў Лідзе*

Перад пачаткам святой Імшы каля святыні сабраліся шматлікія вернікі. Спеў песні "Езу, даваряю Табе з дзяцінства" уводзіў у перажыванне літургіі, якая адкрыла Юбілейны год міласэрнасці ў Гродзенскай дыяцэзіі.

З гэтага часу да 20 лістапада 2016 г. у гродзенскім катэдральным касцёле вернікі будуць мець магчымасць атрымаць поўны адпуст.

Пасля адкрыцця Святых Дзвярэй біскуп Аляксандр Кашкевіч заклікаў усіх увайсці ў святыню. Затым пачалася ўрачыстая Імша з удзелам святароў, кансэкраваных асоб, навучэнцаў Гродзенскай вышэйшай духоўнай семінарыі і вернікаў горада.

У гаміліі гродзенскі ардынарый адзначыў, што папа Францішак, абвяшчаючы Юбілей, жадаў звярнуць увагу ўсяго Касцёла на вялікі дар, якім з'яўляецца Божая міласэрнасць. Іерарх дадаў, што праз сваё рашэнне Святы Айцец хоча, каб у гэты Юбілейны год "увесь Касцёл скіраваў свой позірк на таямніцу міласэрнасці, каб кожны чалавек спазнаў блізкасць і любоў Айца Нябеснага".

Біскуп падкрэсліў, што ў гэты асаблівы год ласкі ад Пана кожны вернік павінен паставіць сабе мэту – распазнаваць Бога ў бліжніх, якім патрэбна дапамога. *"Калі мы хочам спаткаць Езуса ў нашым жыцці, мы павінны вучыцца распазнаваць Яго ў бліжнім, які мае патрэбу ў дапамозе"*, – сказаў іерарх.

Гродзенскі ардынарый заахвоціў усіх задумацца падчас Юбілею аб учынках міласэрнасці адносна цела і адносна душы, а таксама заклікаў нанова адкрываць іх.

Па словах біскупа, у гэтым годзе можна і нават трэба карыстацца ласкай атрымання адпустаў. *"Каб дапамагчы нам адкрыць нанова ўсё духоўнае багацце, схаванае ва ўчынках міласэрнасці, Святы Айцец пастанавіў, што кожны раз, калі вернік сам выканае адзін або некалькі з гэтых учынкаў, ён атрымлівае поўны адпуст"*, – сказаў іерарх, дадаўшы, што гэты адпуст, як звычайна, можна будзе ахвяраваць за сябе або за адну памерлую асобу.

*"Уваходзячы з верай у Надзвычайны год міласэрнасці, просім Пана Езуса, каб усе далі здзівіць сябе Богу, Айцу Міласэрнасці. Ён нястомна адчыняе перад намі дзверы свайго сэрца, каб паўтараць, што любіць нас і хоча дзяліць з намі сваё жыццё"*, – адзначыў гродзенскі ардынарый.

*"Няхай пасланне міласэрнасці, якое абвяшчае Хрыстовы Касцёл, дасягне кожнага чалавечага сэрца. Няхай яно абудзіць у нас усіх жаданне дзяліцца міласэрнасцю і дабрынёй з бліжнімі, каб мы былі міласэрнымі, як міласэрны Айцец наш Нябесны"*, – пажадаў іерарх.

На заканчэнне Імшы біскуп удзяліў спецыяльнае благаслаўленне маці, якія чакаюць нараджэння дзяцей.

Чарговым месцам у Гродзенскай дыяцэзіі, дзе адчыніліся Дзверы Міласэрнасці, стаў касцёл Узвышэння Святога Крыжа (Фара) у Лідзе. Урачыстасць узначаліў дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі.

Лідская святыня стала месцам пілігрымкі вернікаў, якія, спаўняючы звычайныя ўмовы, могуць атрымаць там поўны адпуст, прыняўшы ўдзел у святой Імшы і прыступіўшы да святой Камуніі.

Пасля адкрыцця Святых Дзвярэй у касцёле адбылася Імша, падчас якой біскуп Юзаф Станеўскі маліўся аб тым, каб усе вернікі Гродзенскай дыяцэзіі добра выкарысталі час Надзвычайнага года Божай міласэрнасці і ахвотна карысталіся магчымасцю атрымаць адпусты – багацце Касцёла, – паглыбляючы сваю веру і сяброўства з Езусам.

У гаміліі іерарх адзначыў, што Юбілей міласэрнасці папа Францішак абвясціў у каталіцкім Касцёле для таго, каб *"усе асабіста спазналі Божую міласэрнасць, сапраўды спаткаліся з міласэрным Айцом, які першы выходзіць нам насустрач, прабачае, суцяшае і, узбройваючы нас надзеяй, ускладае на нас «новыя шаты»"*. Біскуп дадаў, што сустрэча з міласэрным Айцом – мэта Года міласэрнасці.

Іерарх нагадаў, што 8 снежня падчас адкрыцця Дзвярэй Міласэрнасці ў базіліцы св. Пятра ў Ватыкане Папа сказаў, што адчыняе гэтыя Святыя Дзверы для ўсіх і для сябе, бо таксама з'яўляецца грэшнікам, на якога Пан паглядзеў з міласэрнасцю. Пантыфік заўважыў, што ён чалавек, якому ў жыцці не раз было прабачана.

Біскуп Юзаф падкрэсліў, што кожны чалавек адчувае бязмежнасць Божай міласэрнасці штодня. *"Гэтую Божую міласэрнасць мы спазнаём не толькі ў абвяшчанні Бога, якое ўзнёсла гучыць, але і ў штодзённай рэчаіснасці. Калі мы хочам убачыць сапраўднае аблічча Бога, убачыць Бога такім, якім Ён быў ад самага пачатку, мы павінны ўглядацца ў Езуса Хрыста, які з'яўляецца міласэрным"*, – сказаў іерарх.

Біскуп дадаў, што Дзверы, якія адчыняюцца ў гэты дзень, – гэта Хрыстос. *"Гэта ў Яго абдымкі мы падаем. Хрыстос запрашае нас, каб мы спазналі Яго міласэрнасць. Пакаяўшыся і здзейсніўшы справы міласэрнасці ў дачыненні да нашых бліжніх, будзем паўтараць з верай: Езу, давяраем Табе"*, – заахвоціў вернікаў іерарх.

Таксама 13 снежня Дзверы Міласэрнасці былі адчынены ў дыяцэзіяльным санктуарыі Маці Божай Шкаплернай у Гудагаі. Адкрыццё здзейсніў дэлегат гродзенскага біскупа Аляксандра Кашкевіча дэкан Астравецкага дэканату кс. Юзаф Багдзевіч у прысутнасці шматлікіх вернікаў і святароў.

**Адкрыццё Дзвярэй Міласэрнасці стала добрай нагодай для кожнага верніка засяродзіцца на аднаўленні сваёй еднасці з Богам.**

***Паводле catholic.by,***
*фота catholic.by*



## *Колькі доўжыцца актава Божага Нараджэння?*

*Святы ўжо мінулі, але яшчэ да 1 студзеня доўжыцца актава Божага Нараджэння. Гэты перыяд багаты на заступнікаў і ўспаміны святых. У літургіі Касцёла паняцце "актава" азначае "святкаванне пэўнага свята, якое працягваецца 8 дзён". Лічба 8 выражае паўнату і ўваход у новае вымярэнне часу, якім з'яўляецца вечнасць. У сучасным літургічным календары ёсць толькі дзве актавы. Яны звязаны з урачыстасцямі Вялікадня і Божага Нараджэння.*

***Урачыстасць Нараджэння Пана мае актаву, укладзеную наступным чынам:***

- *у нядзелю ў актаве адзначаецца свята Святой Сям'і;*
- *26 снежня адзначаецца свята св. Стэфана, першага мучаніка;*
- *на 27 снежня прыпадае свята св. Яна, апостала і евангеліста;*
- *28 снежня – свята святых Немаўлят;*
- *29, 30 і 31 снежня – дні ў часе актавы;*
- *1 студзеня ў актаве Нараджэння Пана святкуецца ўрачыстасць Святой Багародзіцы Марыі. У гэты дзень узгадвалася таксама наданне Найсвяцейшага Імя Езус. З выпускам трэцяга выдання Рымскага Імшала гэты ўспамін быў вызначаны на 3 студзеня.*

*Святкуючы актаву ўрачыстасці Божага Нараджэння, трэба памятаць, што яна адзначаецца як адзін святочны дзень, які адлюстроўвае таямніцу Уцелаўлення. Біблійныя і літургічныя тэксты на кожны дзень адносяцца да таямніцы прыходу Бога ў чалавечай постаці. Езус Хрыстус, Бог-Чалавек прыходзіць як абяцаны Месія, гэта значыць Збавіцель. У Ім здзяйсняюцца ўсе прароцтвы і абяцанні Старога Запавету. Таямніца Нараджэння Пана з'яўляецца для чалавека крыніцай сапраўднай радасці і надзеі.*

*Апрацаваў* ***кс. Павел Салабуда***

## СЛОВА для жыцця

***Папа Францішак***



*"Радуйся, дачка Сіёна!" – абвяшчае прарок Сафонія, звяртаючыся да Ерузалема (Саф 3, 14); а апостал Павел павучае хрысціян у Філіпіі: "Радуйцеся заўсёды ў Пану" (Флп 4, 4). Сёння патрэбна мужнасць, каб казаць пра радасць, патрэбна, перш за ўсё, вера! Свет пакутуе ад многіх праблем, будучыню прыгнятаюць няўпэўненасць і страхі. Але хрысціянін – радасная асоба, а яго радасць – гэта не штосьці павярхоўнае і мімалётнае, а глыбокае і трывалае, таму што яна дар ад Бога, які робіць жыццё поўным. Наша радасць паходзіць з упэўненасці, што "Пан блізка" (Флп 4, 5).*

*"Анёл Панскі"*
*са Святым Айцом, 13.12.2015*

***Кс. абп Клаўдыа Гуджэроці***



*Сапраўдная свабода пачынаецца ў сэрцы. Свабода знешняя – знак праяўлення свабоды ўнутранай. І мы шукаем паўсюднай свабоды чалавека на зямлі. Аднак, калі мы змагаемся толькі за сваю ўласную свабоду, то мы змагаемся за ўласны эгаізм.*

*Мы ўсе з'яўляемся слугамі на дарозе да свабоды, найперш свабоды ў адносінах з Богам. Мы слугі Божай свабоды. Свабоды Бога, які любіць свой народ і за яго памірае на крыжы. Гэта свабода ад ідалаў і маніпуляцый, незалежна ад таго, адкуль яны паходзяць. Свабода будаваць, а не свабода разбураць.*

*Фрагмент гаміліі, прамоўленай падчас Імшы развітання і падзякі за служэнне Апостальскага нунцыя ў Беларусі*

***Кс. абп Тадэвуш Кандрусевіч***



*Спазнаўшы Божую міласэрнасць, нам неабходна дзяліцца ёю з іншымі. Гэта азначае быць міласэрнымі адносна іншых людзей, як міласэрны наш Нябесны Айцец. Таму нам неабходна памятаць аб учынках міласэрнасці адносна душы і цела. Мы адказныя не толькі за сваё збаўленне, але і за збаўленне іншых. Так шмат людзей жыве ў стане граху, і мы абавязаны дапамагчы ім змяніць сваё жыццё.*

*Шмат людзей патрабуе нашай матэрыяльнай дапамогі або нават добрага слова, суцяшэння. Любоў да бліжняга павінна рэалізавацца ў канкрэтных справах. Для гэтага неабходна ў штодзённым жыцці, у парафіі, сям'і, грамадстве і г.д. быць міласэрнымі, каб ніхто не адчуваў сябе адзінокім, пакітутым, ігнараваным.*

*Фрагмент гаміліі, прамоўленай на III Нядзелю Адвэнту*



◆ Прэзентацыя кнігі, якая ўяўляе сабой запіс размовы італьянскага ватыканіста Андрэа Тарнэлі з папам Францішкам, адбудзецца 12 студзеня 2016 г. у Інстытуце патрыстыкі Аўгустыніянум у Рыме. Кніга называецца "Il nome di Dio e Misericordia" (Імем Бога ёсць міласэрнасць), апублікавана выдавецтвам Piemme. Сустрэчу правядзе а. Федэрыка Ламбардзі, дырэктар прэс-бюро Апостальскай Сталіцы, а сярод выступоўцаў будуць: Дзяржсакратар Святога Пасаду кард. П'етра Паралін, былы будыст з Кітая Чжан Агосціно Янквінь, які нядаўна прыняў хрост у турме ў Падуі, а таксама знакаміты італьянскі акцёр Раберта Беніні.

◆ Няглядзячы на прапановы італьянскай паліцыі, Святы Айцец не намераны апранаць бронекамізэльку падчас калядных свят. Папа не змяняе свайго звычайнага стылю праезду праз плошчу Святога Пятра падчас агульнай аўдыенцыі. Пантыфік і ў далейшым плане карыстацца адкрытым папамабілем. Адначасова ў Рыме ўзмоцнены меры бяспекі. Гэта зроблена па прычыне пагроз "Ісламскай дзяржавы". Не так даўно ў інтэрнэце з'явілася відэа, дзе танкі з чорнымі сцягамі ездзяць па разбураным Ватыкане.

◆ 15 снежня ва Украіну прыбыў новапрызначаны Апостальскі нунцый Яго Эксцэленцыя Клаўдыа Гуджэроці. У аэрапорце яго сустрэлі прадстаўнікі Касцёла Украіны. Яны сардэчна прывіталі монсіньёра Клаўдыа і склалі яму пажаданні плённага служэння. У памяшканні Апостальскай нунцыятуры арцыбіскупа павіншавалі працаўнікі папскага прадстаўніцтва. Гуджэроці адзначыў, што ўпершыню мае такі вялікі калектыў супрацоўнікаў, таму спадзяецца добра выканаць сваю місію.

◆ На сустрэчы з членамі грамадскіх моладзевых арганізацый патрыярх Кірыл заўважыў, што праз супрацоўніцтва з Рымска-каталіцкім Касцёлам можна паслабіць праследаванне хрысціян ва ўсім свеце. Кірыл I падкрэсліў, што масавае "вырэзванне" цэлых вёсак ці дэпартацыя хрысціян з іх зямель вядуць да незваротнай радыкалізацыі ісламскага свету і страты раўнавагі паміж мусульманамі і хрысціянамі. Па словах патрыярха, супрацоўніцтва з самым вялікім хрысціянскім Касцёлам свету з'яўляецца абавязковым. Ён таксама перасцярогся, што гэта не значыць забыцца пра існуючыя тэалагічныя адрозненні. І наваат, калі б было падпісана пагадненне ў гэтай справе паміж праваслаўнымі і каталіцкімі тэолагамі, гэта не стала б прычынай для прыняцця гэтага пагаднення ўсімі праваслаўнымі вернікамі.

◆ Вядомыя журналісты, акцёры, музыканты, спартсмены, падарожнікі і грамадскія дзеячы – менавіта яны будуць папулярызаваць сустрэчу моладзі ў Кракаве ў ліпені 2016 года. 15 снежня ў Кракаўскай філармоніі былі прадстаўлены Паслы СДМ 2016. "Гэта асобы, якія натхняюць маладых людзей. Мы хочам, каб яны дапамаглі нам запрашаць пілігрымаў у Кракаў і на працягу наступных 8 месяцаў распаўсюджваць пра гэтую вялікую ідэю Сусветных дзён моладзі", – паведаміла Ева Корбут з прэс-бюро СДМ 2016. Яна дадала, што дзякуючы сваім прафесійным дасягненням Паслы з'яўляюцца таксама прыкладам таго, што хрысціянская вера – гэта фундамент добрага і крэатыўнага жыцця.

niedziela.pl; credo-ua.org; gosc.pl

*Ангеліна Пакачайла*

# Сямейная ўрачыстасць

**Нядзеля 27 снежня прысвечана Святой Сям'і з Назарэта. Выключны настрой гэтых святочных дзён кіруе нас у нашыя дамы, да самых блізкіх, да бацькоў і родных. Варта зрабіць усё, каб нашыя сем'і былі моцныя Богам, узрасталі ў Яго ласцы і цешыліся гэтым самым вялікім дарам, які Ён нам даў.**

**Сінод у Рыме на тэму сям'і яшчэ раз пацвердзіў, што сучаснаму грамадству вельмі неабходны добры прыклад сямейнага жыцця, што Касцёл заўсёды стаіць на варце сям'і, што неабходна маліцца за нашы хрысціянскія сем'і. Найсвяцейшая Сям'я з Назарэта для кожнага з нас становіцца прыкладам жыцця.**



**Разам з дыяканамі Гродзенскай ВДС мы распачынаем кароткі цыкл сямейных катэхез, спадзяючыся, што кожны з Вас, дарагія Чытачы, прыкладзе трошкі больш намаганняў да будавання сям'і на фундаменце Евангелля. Першую катэхезу правядзе кс. дк Анджэй Ганчар з Ліды.**

## Пра сужэнскую павагу

***Я добра памятаю той дзень з дзяцінства, калі святар з маёй роднай парафіі на гамііі падчас вячэрняй св. Імшы распавядаў пра сваю сям'ю. Ён гаварыў пра тату і маму, пра іх сумеснае жыццё і каханне. Але было штосьці, што я запомніў на ўсё сваё жыццё: ён ніколі не бачыў, як яго бацькі сварацца.***

Можна было б падумаць, што гэта нейкая выдумка добрага святара, які з усяе сілы стараўся паказаць вернікам добры прыклад. Аднак я ведаю дакладна, што гэта ўсё не фікцыя, гэта праўда: насамрэч існуюць такія сужэнствы, дзе муж і жонка будуюць свае адносіны з дапамогай Госпада.

Прызнаюся, я зайздросціў гэтаму святару ў той момант. Не можна абзываць гэтую зайздрасць па-людску "белай" альбо "чорнай", але не ў гэтым сэнс. Сэнс у тым, што яго бацькі вышэй за ўсе праблемы і цяжкія пытанні ставілі любоў да свайго сына. Я яскрава ўяўляю, як маладыя бацькі з усім сваім гонарам, злосцю і крыўдай перакідваюцца цяжкімі позіркамі, устаюць са сваіх мяккіх крэслаў і выходзяць за дзверы. Іх маленькі сын застаецца ў пакоі і нават не разумее, што зараз за тымі дзвярыма яго бацькі сварацца і выліваюць адзін на аднаго сваё незадавальненне. Ён зразумее гэта праз некалькі год, калі будзе з амбоны дзякаваць ім за такое праяўленне бацькоўскай любові.

На апошнім сінодзе па справах сям'і шмат гаварылася пра каштоўнасць самога інстытуту сужэнства, пра тое, які ён мае ўплыў на сённяшні свет. Гэты саюз мужчыны і жанчыны вечны, ён цягнецца ажно да смерці. І ў гэтым саюзе мужчына і жанчына дапаўняюць адзін аднаго. Такая аксіёма прыводзіць да думкі, што ніводзін саюз не пратрывае, калі не будзе ў ім простай, звычайнай сужэнскай павагі.

Працуючы цэлы год у Гродзенскай катэдры, я займаўся таксама і падрыхтоўкай маладых людзей да прыняцця сакраманту сужэнства. І, па праўдзе кажучы, маё расчараванне было вялікім, бо, гледзячы на гэтую моладзь, я разумеў, што яны не да канца ўсведамляюць сабе, якім павінна быць сужэнства. На ўзгаданым мной сінодзе іерархі не раз заклікалі "сур'ёзна ўспрымаць сужэнства". Я разумею, што заклік не можа шмат змяніць, але ён можа падштурхнуць да змен у нашым светапоглядзе.

Варта заўсёды памятаць, што муж і жонка пасля пацвярджання свайго жадання "кахаць ажно да смерці" – ужо адно. Мужчына – падтрымка і моцнае плячо ў кожнай праблеме, жанчына – пяшчота і зразуменне ва ўсіх жыццёвых цяжкасцях. Што важна, большасць пар, за якімі я назіраў падчас сваёй працы, казалі пра сваё каханне як пра штосьці не з гэтага свету. Я разумеў, што яны не з поўнай адказнасцю адносяцца да свайго рашэння, бо проста прагнуць быць разам, бо ім разам добра. Але ж яны не ўсведамлялі, што будаванне сужэнства на пачуццях і ўзаемнай адарацыі падобна на чалавека, які пабудаваў свой дом на пяску і аб чым пашкадаваў, бо першая ж навальніца гэты дом зруйнавала.

Пачуцці і закаханасць – гэта прыгожа і неверагодна, і яны, канешне ж, павінны прысутнічаць у жыцці мужчыны і жанчыны. Але ні ў якім разе не можна лічыць эмацыйныя ўздымы моцнай падставай для прыняцця аднаго з найважнейшых сакрамантаў, устаноўленых касцёлам.

Я ведаю шмат сужэнскіх пар. Ёсць такія, якія звяртаюцца адзін да аднаго на "Вы", а пасля афіцыйнай формы імені дадаюць яшчэ і імя па бацьку. Ёсць такія, якія, ужо маючы некалькі дзясяткаў год "стажу", як і раней не любяць надоўга раз'язджацца і быць асобна. А ёсць і такія, якія сваім каханнем старэюцца дзяліцца з беднымі, хворымі і самотнымі.

Аднак, асабіста я ўпэўнены вось у чым: павага мужа да жонкі – гэта адна з наймацнейшых падстаў моцнай сям'і. Могуць быць пачуцці, закаханасць, зацікаўленасць, якія ў пэўным моманце згубяць сваю яскравасць. Аднак павага, як і сапраўдная Любоў, ніколі не мінае.

Гэтая мудрая павага пазней адлюструецца на выхаванні дзяцей, пра што і распавядаў святар у маёй парафіі. Павага – як цвярдыня, перад якой рассыпаюцца войскі цяжкіх момантаў.

*Дк. Анджэй Ганчар, кс. Павел Салабуда*




## Хто выбірае францішканскі шлях, павінен быць гатовы да мучаніцтва

12 снежня ў гродзенскім касцёле Маці Божай Анёльскай адбылася св. Імша падзякі за дар беатыфікацыі а. Міхала Тамашка і а. Збігнева Стшалкоўскага, францішканскіх мучанікаў з Перу. У набажэнстве прынялі ўдзел айцы францішканцы з усёй Беларусі: Гродна, Івянца, Гальшанаў, Свіслачы, Першаёў, Поразава і Удзела.

Мучанікаў беатыфікавалі 5 снежня гэтага года.





# Вітайце ў Божым доме!





***У гродзенскай парафіі Святога Духа адбылося ўрачыстае асвячэнне новаўзведзенай капліцы. Абрад асвячэння здзейсніў кс. бп Аляксандр Кашкевіч. Таксама ва ўрачыстасці прыняў удзел кс. бп Юзаф Станеўскі, святары, манаскія сёстры ды вернікі з Альшанкі і Фабрычнага, для якіх парафіяльная святыня будзе сапраўдным домам, дзе кожны знойдзе сваё месца побач з Хрыстом.***



*Асвячэнне капліцы прынесла вялікую радасць маладой парафіяльнай супольнасці*



*Падчас урачыстай св. Імшы ў капліцы ў парафіі Святога Духа*

Урачыстасць асвячэння капліцы ў парафіі Святога Духа сабрала шматлікіх вернікаў, якія яшчэ задоўга да пачатку св. Імшы запоўнілі новую святыню. Людзі цешыліся, што завяршыўся першы этап да будаўніцтва новага касцёла – паўстала капліца, дзе будуць збірацца дзеці, іх бацькі ды людзі старэйшага пакалення, дзе будуць цэлебравацца сакраманты і абвяшчацца Божае слова.

На пачатку св. Імшы кс. бп Аляксандр Кашкевіч асвяціў святой вадой сцены капліцы і ўсіх вернікаў і паабяцаў маліцца за парафіяльную супольнасць, якая жыве, расце і зараз мае месца, дзе можна спатыкацца з Хрыстом.

У сваю чаргу кс. бп Юзаф Станеўскі, звяртаючыся да сабраных вернікаў з гаміліяй, прыгадаў, як будаваўся і развіваўся Жывы Касцёл у новым мікраёне Гродна. "Спачатку парафіяне маліліся ў старой капліцы, пасля – на пляцы, дзе будзе пабудаваны касцёл, нават пад адкрытым небам вызнавалі сваю любоў да Бога. Сёння яны моляцца ў новазбудаванай капліцы. Гэтае месца выбраў Пан", – сказаў кс. бп Юзаф.

"Я вельмі цешуся, што вашыя сэрцы ўзрушыліся, і вы зразумелі, што патрэбна не толькі новая кватэра, дом, новая мэбля, рамонт, але і месца для Пана. Вашы добрыя думкі і справы спрыяюць таму, што 24 снежня, калі Юзаф і Марыя будуць шукаць месца, дзе павінен нарадзіцца Збаўца, ім не прыйдзецца доўга блукаць, бо ёсць вашая Бэтлеемка, у якую яны змогуць прыйсці. Нездарма св. Ян Павел II казаў, што ў чалавека такая вялікая далонь, што ў ёй можа змясціцца ўвесь Бэтлеем, і такое цёплае і вялікае сэрца, што яно можа прыняць і абагрэць Божае Дзіця. Ваша парафія – сапраўдны гродзенскі Бэтлеем, тут адчуваецца цяпло вашых сэрцаў", – падкрэсліў іерарх.

Кс. бп Юзаф Станеўскі таксама выказаў удзячнасць усім тым, дзякуючы каму стала магчымай урачыстасць: уладам за выдзяленне зямлі, пробашчу, які стаў асноўнай рухаючай сілай, спонсарам і будаўнікам, а таксама вернікам, якія ахвяравалі сваю працу, недаспаныя ночы дзеля таго, каб паўстала парафіяльная святыня.

Дзякуючы Богу за дар новай капліцы, пробашч парафіі кс. Павел Салабуда адзначыў, што яна будавался перш за ўсё для таго, каб стаць месцам для сустрэчы з Богам. Святар выказаў надзею, што капліца стане супольным домам для ўсіх вернікаў Альшанкі і Фабрычнага, што ў гэтых мурах будзе ўзрастаць Жывы Касцёл, і ніхто не будзе адчуваць сябе чужым.

**Нагадаем, што парафія Святога Духа ў Гродне была створана ў 2012 г. Дата 24 мая 2015 г. для вернікаў адзначылася вялікай падзеяй – кс. бп Аляксандр Кашкевіч асвяціў крыж і зямлю пад будаўніцтва новага касцёла. 10 жніўня пачалося будаўніцтва капліцы, а ўжо сёння парафіяльная святыня цалкам запоўнена вернікамі, якія збіраюцца на св. Імшы, радасна вітаючы адзін аднаго словамі "Хвала Хрысту!".**

*Кінга Красіцкая*

## Пабудуем касцёл разам!



**Дарагія Чытачы! Вы ведаеце мяне ўжо на працягу пяці гадоў дзякуючы нашай дыяцэзіяльнай газеце "Слова Жыцця", рэдактарам якой я з'яўляюся. Ужо тры гады я таксама служу пробашчам у новым мікраёне Гродна, дзе, у асноўным, жывуць маладыя сем'і, што маюць па трое і больш дзяцей. Нам вельмі неабходна свая святыня. Сваімі сіламі мы здолелі пабудаваць капліцу і ў IV Нядзелю Адвэнту асвяціць яе. На жаль, самі мы не зможам пабудаваць касцёл. Таму я звяртаюся да кожнага Чытача, чалавека добрай волі з вялікай просьбай дапамагчы нам у пабудове касцёла ў Гродне.**

**Свае ахвяраванні можна пералічваць на парафіяльны рахунак, а таксама перадаваць праз сваіх ксяндзоў пробашчаў.**

***Няхай добры Бог у Год міласэрнасці шчыра Вас узнагародзіць.***

***Кс. Павел Салабуда***

*Рэлігійная абшчына "Парафія Святога Духа ў г. Гродна Гродзенскай дыяцэзіі Рымска-каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"*
*230025, г. Гродна, вул. Карла Маркса, 4, пакой 6*
*Тэл. маб.: (+37529) 637-07-17, solobuda@gmail.com*
*Р/рахунак: 3015300120019 у Кіраўніцтве ААТ "Банк Масква-Мінск" па Гродзенскай вобласці, код 272*
*УНП 500838799*



DEON.pl

**Бласлаўленне Папы дапамагло перамагчы рак**

***Праз год пасля сустрэчы з папам Францішкам 12-гадовая дзяўчынка з ЗША перамагла хваробу.***

*У Грэйс Вэст, якая жыве ў Нью-Ёрку, "не выяўлена злаякасных новаўтварэнняў" – паведаміла амерыканская тэлекампанія CBS і працытавала словы дзяўчынкі, што "гэта цуд Божага Нараджэння".*

*Год таму, дзякуючы аднаму дабрачыннаму амерыканскаму фонду, Грэйс Вэст змагла прысутнічаць на прыёме ў папы Францішка. Раней у яе быў выяўлены рак нервовай сістэмы. Сёння дзяўчынка і яе бацькі цешацца, што бласлаўленне Папы "сапраўды дапамагло".*




**У Ватыкан прыедзе выстава сакральнага мастацтва Беларусі**

***Ідэя ватыканска-беларускага культурнага праекту яшчэ распрацоўваецца, але вядома, што экспанаты прыбудуць з Нацыянальнага мастацкага музея краіны, а адчыніцца вернісаж у лютым-сакавіку.***

*Гэта будуць абразы і іконы як праваслаўныя, так і каталіцкія, што нагадвае таксама аб экуменічным характары гэтага праекту.*

*На думку аб-па Тадэвуша Кандрусевіча, выстава паспрые развіццю адносін паміж нашай краінай і Ватыканам, а таксама дапаможа наведвальнікам, якіх там кожны дзень тысячы, больш даведацца аб Беларусі і беларускім Касцёле.*




**У Кракаве прайшоў конкурс на самую прыгожую стаенку**

***Сёлета на конкурс было прадстаўлена 187 стаенак. Іх асаблівасцю з'яўляецца прысутнасць элементаў архітэктуры горада.***

*У гэтым годзе галоўнай узнагародай конкурсу журы адзначыла стаенку Лешэка Зажыцкага, працы якога ўжо на працягу дваццаці гадоў маюць найлепшыя ацэнкі. Вышыня яго сёлетняй стаенкі, над якой майстар працаваў паўтары гады, – 1,9 метра. Яна прадстаўляе Рынак Кракава з яго галоўнымі пабудовамі: касцёлам св. Войцеха, Марыяцкім касцёлам, Ратушай, Сукенніцамі.*

*Кракаўскія стаенкі значна адрозніваюцца ад традыцыйных бэтлеемскіх стаенак. Часцей за ўсё іх робяць па ўзору кракаўскіх касцёлаў. Апрача фігур Святой Сям'і, традыцыйнымі героямі стаенак становяцца Лайконік, Вавэльскі Цмок, жыхары Кракава.*

***Кінга Красіцкая***

## “Няхай вашы сэрцы будуць заўсёды чулымі”

*18 снежня ў Гродзенскай вышэйшай духоўнай семінарыі адбылася аплаткавая сустрэча духавенства Гродзенскай дыяцэзіі. У сустрэчы ўдзельнічалі гродзенскі ардынарый кс. бп Аляксандр Кашкевіч і дапаможны біскуп дыяцэзіі Юзаф Станеўскі. Да супольнага святкавання былі запрошаны і семінарысты.*



Сустрэча пачалася малітвай Брэвіярыя і адарацыяй Найсвяцейшага Сакраманту.

Біскуп Аляксандр Кашкевіч падзякаваў усім святарам дыяцэзіі за ахвярнае служэнне ў сваіх парафіяльных супольнасцях і за душпастарскія ініцыятывы, рэалізаваныя ў парафіях.

“Дзякую за кожны жэст чалавечнасці, скіраваны да вашых вернікаў, – сказаў біскуп. – Няхай вашы святарскія сэрцы будуць заўсёды чулымі да чалавечых бед і праблем. Будзем заўсёды спяшацца з дапамогай да тых, хто яе чакае”.

Святочныя пажаданні ардынарыю і ўсім святарам скіраваў таксама дапаможны біскуп дыяцэзіі Юзаф Станеўскі.

## Гродзенскую семінарыю наведалі дзеці з радунскага дома-інтэрната

*Семінарыйная супольнасць апекуецца выхаванцамі інтэрната і заўсёды сустракае гасцей з вялікай радасцю, як вельмі блізкіх і дарагіх сэрцу людзей.*



Падчас сёлетняй сустрэчы семінарысты спрабавалі стварыць неабходныя ўмовы для таго, каб дзеці адчулі любоў і цеплыню бацькоўскага дома, пранікліся радасцю светлага свята Нараджэння Хрыста, зразумелі, што, нягледзячы на ўсе жыццёвыя абставіны, трэба заўсёды заставацца добрымі, міласэрнымі і за ўсё дзякаваць Богу.

Варта адзначыць, што на працягу многіх гадоў навучэнцы Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне самі наведваюць дзіцячыя прытулкі і дамы Гродзеншчыны. 16 снежня яны сустрэліся з дзецьмі-інвалідамі з дома-інтэрната ў вёсцы Галавічполле. Падчас сустрэчы семінарысты на чале з прэфектам кс. Андрэем Лішко спрабавалі адарыць дзяцей любоўю і радасцю надыходзячага свята, правялі катэхезу пра Божае Нараджэнне. Пасля ўсе разам падзяліліся аплаткай і заспявалі калядныя песні.

## Адвэнтавая акцыя дапамогі людзям у патрэбе

*Дабрачыннае каталіцкае таварыства “Caritas” з Іўя ў перадкалядны час наладзіла выраб батлеек і распаўсюджванне ўпрыгожванняў на вігілійны стол.*



Выручаныя сродкі будуць прызначаны для людзей у патрэбе. Сімвалічныя падарункі ў святочны перыяд атрымаюць дзеці з інтэрната, людзі з дамоў састарэлых, а таксама адзінокія.

Як адзначыў ініцыятар акцыі кс. Ян Гавецкі, пробашч парафіі св. апосталаў Пятра і Паўла у Іўі, такая адвэнтавая ініцыятыва ўжо стала парафіяльнай традыцыяй.

“Сродкі ад гэтай акцыі, якімі мы прагнем падзяліцца з людзьмі ў патрэбе, – гэта наша ахвяра, якая поруч з малітвай і постам з'яўляецца фундаментам нашага хрысціянскага жыцця”, – паведаміў святар.

## У Гродне прайшлі адвэнтавыя рэкалекцыі для супрацоўнікаў аховы здароўя

*60 чалавек сабраліся на сустрэчу з Богам у рэктаральным касцёле Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі, каб паслухаць, што Ён прамовіць да кожнага з іх, і добра падрыхтавацца да свят Божага Нараджэння.*



Паглыбляць адносіны з Богам, умацоўвацца ў веры, адкрываць сэрцы на Божае слова дапамагаў удзельнікам рэкалекцый айцец дамініканец Віталь Сапега OP. На працягу трох дзён медыкі разважалі над праблемай духоўных хвароб, якая стала асноўнай тэмай рэкалекцый.

Найважнейшай часткай рэкалекцый была святая Імша і адарацыя. Усе прысутныя маглі скарыстацца з ласкі сакраманту споведзі.

## Бэтлеемскае святло міру пачало вандроўку па Беларусі

*19 снежня з гродзенскага катэдральнага касцёла св. Францішка Ксаверыя афіцыйна пачаў сваю вандроўку Бэтлеемскі агонь. У Беларусь агонь прыбыў ужо ў 16-ты раз дзякуючы скаўтам, якія даставілі яго з беларуска-польскай мяжы.*



У гродзенскім катэдральным касцёле Бэтлеемскае святло міру сустрэў біскуп Аляксандр Кашкевіч. На вітанне агню прыбылі скаўты з розных месцаў Беларусі, каб адвезці яго ў свае святыні. Сабраліся таксама вернікі Гродна, каб узяць агонь у свае дамы на вігілійны стол, дзе ён будзе нагадваць аб Уцелаўленні Божага Сына. Пасля вітання Святла міру біскуп Аляксандр Кашкевіч узначаліў святую Імшу, падчас якой разам з вернікамі асабліва маліўся аб міры ў свеце.

Вандроўка Бэтлеемскага агню кожны год праходзіць пад пэўным дэвізам. Дэвіз сёлетняга падарожжа Святла міру – “Заўваж чалавека”.

## У Лідзе адбылася аплаткавая сустрэча з дзецьмі-інвалідамі і іх бацькамі

*Падчас сустрэчы ў капліцы Маці Божай з Лурда ў Лідзе падводзіліся вынікі працы з дзецьмі-інвалідамі, а таксама абмяркоўваліся планы на наступны год.*

Потым дзеці прачыталі вершы, а іх бацькі, сястра Аліцыя Шадурская SSND і кс. капелан Юрый Бегаеўскі павіншавалі ўсіх прысутных з надыходзячымі святамі Божага Нараджэння і Новым годам.

У канцы сустрэчы дзеці атрымалі калядныя падарункі, а потым адбылося традыцыйнае дзяленне аплаткай.



Частка падарункаў была перададзена таксама ў дзіцячае рэабілітацыйнае аддзяленне.

## У гродзенскай семінарыі прайшоў адвэнтавы дзень духоўных разважанняў

*На гэты раз дзень духоўных разважанняў правёў віцебскі біскуп Алег Буткевіч, які з'яўляецца выпускніком гэтай навучальнай установы.*



Біскуп Алег Буткевіч у ходзе духоўных разважанняў падзяліўся з семінарыстамі сведчаннем бязмернай Божай любові ў сваім жыцці і заахвоціў тых, хто рыхтуецца да святарства, добра выкарыстаць час, які яны праводзяць у семінарыі.

Таксама іерарх адзначыў важнасць малітвы, якая павінна стаць фундаментам жыцця кожнага хрысціяніна, а тым больш будучага святара.

## Каталіцкія святары Беларусі згуляюць на чэмпіянаце па міні-футболе

*У спаборніцтвах прымуць удзел шэсць каманд: па адной з кожнай дыяцэзіі, а таксама асобныя каманды семінарыстаў з Гродна і Пінска.*



IV Чэмпіянат па міні-футболе сярод каталіцкіх святароў Беларусі пройдзе 28 снежня ў Ашмянах. Распачнецца турнір святой Імшой у 12.00 у ашмянскай парафіі св. Міхала Арханёла.

Ашмяны стануць чацвёртым горадам пасля Ліды (2012), Лепеля (2013) і Маладзечна (2014), у якім адбудзецца чэмпіянат. Дзеючы чэмпіён турніру – каманда святароў Гродзенскай дыяцэзіі, якая выйгравала чэмпіянат тры гады запар з моманту яго першага правядзення.

## Калядная акцыя збору падарункаў для дзяцей

*Дабрачынная акцыя была адрасавана дзецям з парушэннем слыху і тым, хто застаўся без апекі бацькоў, а таксама дзецям са шматдзетных сем'яў.*



Акцыя пачалася выступленнем выхаванцаў Гродзенскай гарадской спецыяльнай школы-інтэрната для дзяцей з парушэннем слыху. Пасля міні-канцэрта валанцёры гродзенскага “Caritas” запрашалі наведвальнікаў гандлёвага цэнтра прыняць у ёй удзел і зрабіць падарункі для дзяцей на Божае Нараджэнне.

На заклік падарыць дзецям радасць адгукнулася шмат людзей. Падчас акцыі былі сабраны канцылярскія тавары, сродкі асабістай гігіены, цацкі, абутак і адзенне.

## ВЫНІКІ ІНТЭРНЭТ-АПЫТАННЯ

**Ці дорыце Вы падарункі на Божае Нараджэнне?**




*У чарговым апытанні мы пацікавіліся ў нашых чытачоў на тэму падарункаў на Божае Нараджэнне. Падарункі, якія мы атрымліваем у гэтыя дні, маюць як рэлігійны, так і свецкі характар. Большасць рэспандэнтаў аддала голас за падарункі свецкага характару. На другім месцы – падарункі рэлігійнага характару. Ёсць таксама група людзей, якія абмежаваны фінансава і не могуць дазволіць сабе рабіць падарункі.*

***Чарговыя вынікі каментуе кс. Павел Салабуда, галоўны рэдактар.***

## КАМЕНТАРЫЙ ЭКСПЕРТА



***Кс. Павел Салабуда***

*Тэматыка падарункаў на Святы вельмі часта выходзіць на першы план. Вялікая колькасць людзей турбуецца ў гэтыя дні аб тым, які падарунак зрабіць сваім блізкім і знаёмым. Гэта таксама датычыцца пытання, якім павінен быць гэты падарунак. З рэзультатаў апытання вынікае, што кожны выбірае падарунак зыходзячы з асабістых крытэрыяў і фінансавых магчымасцей. Але ў гэтай бегатні за падарункамі давайце пастараемся не згубіць Езуса. Напэўна, нам прынясе шмат радасці сюрпрыз у пастаці падарунка ад нашых блізкіх, але важней за ўсё сустрэча з нованароджаным Дзіцяткам. На сустрэчы з Богам мы таксама можам ахвяраваць свой падарунак – чыстае сэрца, жыццё, поўнае міласэрнасці і радасці.*

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**30 снежня 1997 г.** – кс. Рышард Слівіньскі, *Варшава – праф. Гродзенскай ВДС;*
**4 студзеня 1967 г.** – кс. Баляслаў Красадомскі, *проб. Іўчолна;*
**7 студзеня 1946 г.** – кс. Іпаліт Баярунец, *проб. Ліда-Фара;*
**10 студзеня 2004 г.** – а. Караль Шчэпанэк OFMCap, *проб. Ліпнішкі.*

*Пры падрыхтоўцы навін выкарыстоўваліся інтэрнэт-старонкі:* ***grodnensis.by, catholic.by***

